# Maksims Bahdanovičs

## Jau roka rudzupuķi auž...




# Максім Багдановіч

## Цвяток радзімы васілька.



# Maksims Bahdanovičs

# Jau roka rudzupuki auž...

Dzejoļi

*

RIGA «RAKSTNIEKS» —
MINSKA «MASTACKAJA LITARATURA»
1992

# Максім Багдановіч

# Цвяток радзімы васілька...

Вершы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1992

ББК 84Бел1
Б14

Серыя заснавана ў 1989 годзе

*На беларускай і латышскай мовах*

Пераклад і перадрук зроблены з выдання:
*Багдановіч М.*. Збор твораў: У 2 т. Т. 1.
Мн.: Навука і тэхніка, 1968.

Sakartojuši *Viktors Līvzemnieks* un *Rigors Baradulins*

*Andra Vējāna* un *Rigora Baradulina* priekšvārdi
No baltkrievu valodas atdzejojuši
*Andris Vējāns* un *Viktors Līvzemnieks*

Укладальнікі *Віктар Ліўземніек* і *Рыгор Барадулін*
Уступныя словы *Андрыса Веяна* і *Рыгора Барадуліна*
Пераклад на латышскую мову
*Андрыса Веяна* і *Віктара Ліўземніека*

Б $\frac{4702120102-083}{M302(03)-92}$ БЗ 57—92

ISBN 5-340-01265-4

# Ceļavārdi

Mums ar Baltkrieviju un baltkrieviem, saviem dienvidaustrumu kaimiņiem, tālos un tuvos gadsimtos bijis daudz kopēju bēdu, smagu triecienu, izmisuma nebalto dienu un gaišo cerību mirkļu. Sevišķi Latgales vēsturē ierakstīts daudz līdzīgi skaudru un sāpīgu lapaspušu. Pat drūmais drukas aizliegums mūs vienādi smacējis kā lietuvēns un lāsts. Tikai 1905. gada spirgto atbrīvošanās centienu un gribas uzmundrināti, varēja brīvāk uzelpot arī sābru ļaudis. Tāpat kā toreizējās Vitebskas guberņas latvieši tikai gadsimta sākumā varēja laist klajā pirmos preses izdevumus un piepildīt realitātē sapņus par grāmatām, tā arī baltkrievu vārda mākslas balss pirmo reizi droši un pilnā balsī ieskanējās vētrainās revolūcijas un atmodas dienās.

1905. gadā savu pirmo darbu publicēja Janka Kupala, gadu vēlāk ierunājās Jakubs Kolass, bet 1907. gadā — jaunais un neatlaidīgais, taču jau tuberkulozes iegrauztais Maksims Bahdanovičs. Pirmos divus latviešu lasītājs jau krietni iepazinis, trešais vairāk dzirdēts vārda pēc. Rainis interesējās par baltkrievu literatūru un arī par Bahdanoviču. Par viņu mūsu baltkrievu draugi daudz stāstījuši Latvijas rakstniekiem. Ar saviļņojumu par Maksimu allaž runā Rigors Baraduļins, kas arī mani un Viktoru Līvzemnieku mudināja, lai ķeramies atdzejot izcilā baltkrieva liriku.

Maksima Bahdanoviča īsais un traģiskais mūžs mums tik ļoti atgādina daudzu latviešu literatūras darbinieku, mūsu klasiķu, likteņus, ka, iepazīstoties

ar viņa biogrāfiju un lasot dzeju, ne tikai sāpēs iesmeldzas sirds, bet tā arī iepukstas lepnumā: cik vareni turējušies mūsu pirmie gaismas nesēji un kultūras celmlauži!

Lūk, tikai daži Maksima Bahdanoviča dzīves gājuma dati. Dzimis 1891. gada 9. decembrī Minskā, baltkrievu etnogrāfa, folklorista un pedagoga ģimenē. Pēc gada Bohdanoviču saime pārceļas uz Grodņu. Zēns agri pazaudē māti. Tēvs ar kuplo bērnu pulku dodas uz Ņižņijnovgorodu, kur saradojas ar Maksimu Gorkiju. Katrā ziņā saskare ar šo krievu rakstnieku nepaliek bez pēdām arī Maksima Bahdanoviča daiļradē. Jauneklis cītīgi studē tieslietas, bet viņa interešu loks neaprobežojas ar jurisprudences problēmām. Dažos gados viņš kļūst par vienu no visizglītotākajiem toreizējās baltkrievu inteliģences pārstāvjiem. Mirst 1917. gadā Jaltā.

Vai šī dzīves stāsta konspektīvie meti vien jums neatgādina mūsu Juri Alunānu vai Eduardu Veidenbaumu? Arī viņu mūžs pazibēja un pazuda kā zibens agrās vasaras debesīs. Bet dzejnieku sētie graudi palika zemē, uzdzirkstīja asnos un sakuploja vārpās. Guva atbalsi paaudžu paaudzēs.

Tāds baltkrieviem ir Maksims Bahdanovičs. Līdzīgs jau, līdzīgs Jankam Kupalam un Jakubam Kolosam, bet arī stipri atšķirīgs, spilgti savs un neatkārtojams. Viņš bija atrauts no dzimtenes, no baltkrievu vides un valodas. Bet cik pamatīgi smalki un iejūtīgi to apguva pašmācības ceļā! Viņš neatlaidīgi pētīja savas tēvzemes vēstures gaitas, ieklausījās folkloras motīvos, skaņās un balsīs. Rakstīja apceres un esejas par baltkrievu literatūras vēsturi, citiem jautājumiem. Iapazinās ar pasaules vārda mākslas izcilākajiem sasniegumiem. Un pārliecinoši pierādīja, ka arī baltkrievu valoda un dzeja var

grodi iekļauties sonetos un tercīnēs, oktāvās un trioletos. Pilsētnieks būdams, Maksims Bahdanovičs prata ieklausīties savas zemes rūpestos, laucinieku nopūtās un spītībā, nabaga arāju raizēs un nedienās. Dzejnieks mācēja noslaucīt sievietes asaras.

Plašs un daudzpusīgs Bahdanoviča daiļrades diapazons. Viņš necieta skaļumu, lozungus un patētiku, bet viņa klusinātajās vārsmās tik daudz apgarota patriotisma, sajūsmas par cilvēka un dabas skaistumu! Viņa mīlestībai veltītajos dzejoļos mēs vēl šodien varam atrast atbalsi arī saviem sapņiem un savām ilgām.

Maksima Bahdanoviča Kopoti raksti baltkrievu valodā ietveras divos sējumos, divās grāmatās. Bet tās ir divas bagātas dzejas un gara dzīves izpausmju krātuves, divas klētis, no kuru arodiem mēs tagad pasmeļam dažus graudu siekus latviešu lasītājiem.

Rīgā
1991. gada 15. maijā

*Andris Vējāns*

# Акно ў Еўропу

У нас, у крывічоў, самыя старадаўнія гарады ў параўнанні з суседзямі нашымі. У нас самыя старадаўнія песні і казкі, бо яшчэ жывыя ў душы народа карані паганства.

І вось нашая навейшая літаратура сталее, стагоднее, годнее. І юбілей Максіма Багдановіча не проста чарговы стогадовы. Гэта яшчэ адно стагоддзе нашая паэзія паўнамоцна пачувалася ў свеце як адметная, як гардачолая.

Жыў і памёр, як паэт, малады. Малады і застаўся ў свядомасці беларускай. Вялікае гора народа, нацыі, што мала пражыў, але, хай даруецца мне панам Богам гэтае кашчунства, затое не абразіў свой талент вершамі сацрэалістычнага складу. Засталіся жыць вершы беларускага складу, вершы паэта еўрапейскай, сусветнай арыентацыі. Дый калі б і застаў кастрычнік, то пайшоў бы паэт па першае мабілізацыі саграваць сваім палымяным сэрцам вечную мерзлату аднаго з безліч ГУЛагаў. За адзін толькі «цвяток радзімы васілька», ужо не кажучы пра славутую «Пагоню», якую выключалі з усіх кніг паэта, што выходзілі ў «залаты век» сталінска-чэкісцкага сацыялізму.

У гэты «залаты век» лепшыя творы Янкі Купалы, што былі хлебам духоўным нацыі, амаль не друкаваліся, у хрэстаматыях ды аднатомніках падаваліся чытачу аднадзёнкі вялікага паэта славянскага свету, якія мусіў ён хры-

пець, бо да горла быў прыстаўлены нож рознае крытычнай бэндаўшчыны. (Дарэчы, bende па-латышску мае адно значэнне — кат.)

З папраўкамі, з заўвагамі на песімізм паэта, за вушы прыцягнутым сцверджаннем, што якраз кастрычнік меў на ўвазе Максім Багдановіч, калі сцвярджаў: «Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага яснага дня...», змушаныя былі спяцы па літаратуры з марксісцкім светапоглядам даваць у падручніках ды анталогіях сапраўдныя вершы сапраўднага паэта. І ў змрочныя часы (па інерцыі чытач сталага пакалення працягне царызму) сталінізму Максім Багдановіч быў адзіным акном у Еўропу. На творах Максіма Багдановіча вучыліся роднай мове, мове крынічнай, чыстай, не заказёненай, вучыліся жыць, адчуваць сябе людзьмі думкі, людзьмі, далучанымі да агульначалавечае культуры.

Максім Багдановіч ратаваў нацыю, ратаваў мову на краі роспачы. І ў нашыя дні нацыянальнае абуджэнне ідзе пад знакам «Пагоні», якую «Не разбіць, не спыніць, не стрымаць» ніякой рэакцыі, ніякім цёмным сілам. І зусім не выпадковая цікавасць да паэзіі Максіма Багдановіча іншых народаў, іншых культур. Паэт ідзе ў свет. Ён сам таленавіта перакладаў лепшыя здабыткі з сусветнай паэзіі. Паэзія свету плоціць яму ўзаемна ўдзячна. І нашыя даўнія сябры народны паэт Латвіі Андрыс Веян і паэт-наватар Віктар Ліўземніек пераклалі на латышскую мову залатыя, як беларуская жывіца, як латышскі бурштын, радкі Максіма Багдановіча.

Латышскаму сэрцу ўсцешна будзе пачуць, што ў 1916 годзе ў водгуку на чарговы збор-

нік нацыянальнасцей літаратурнай Расіі «Отечество» Максім Багдановіч, у прыватнасці, пісаў: «Цэласнае і вялікае ўражанне пакідае творчасць аднаго толькі Райніса (латышскі паэт), значнасць якога яўная, нягледзячы на недахопы перакладаў». Нялішне тут нагадаць і пра тую высокую ацэнку, якую даў Андрэй Упіт творчасці Максіма Багдановіча ў «Гісторыі сусветнай літаратуры» ў 1934 годзе: «Глыбокім паэтам з'яўляецца і Багдановіч (1891—1917), прадстаўнік «чыстага мастацтва», які культываваў формы, рытмы і прыгожае, паказаў, што і на простай сялянскай мове ільга пісаць прывабныя санеты, трыялеты, рандо, актавы і тэрцыны. Адлюстроўваючы жыццё свайго народа, ён карыстаўся дасягненнямі выразнасці паэзіі ўсіх іншых народаў...»

На покуці сусветнай літаратуры ў Багдановіча сваё пачэснае месца паэта, які адраджаў беларускі нацыянальны дух, уздымаў беларускую думку на вяршыні сусветнай культуры.

Развітваючыся з жыццём, паэт пісаў:

Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

За гады жыцця паэзіі Максіма Багдановіча выйшла шмат кніг на розных мовах. Гэтая кніжыца чарговая, не апошняя. У ёй добра перагукваецца дзвюм мовам — беларускай, багдановічаўскай, і латышскай, райнісаўскай. Няхай гучаць. Жыве Беларусь! Lai dzīvo Latvija!

*Рыгор Барадулін*

* * *

Jūs, kam meklēt tīk starp lapām,
Sadzeltējušām un vecām,
Grāmatās sen aizmirstībā
Sakaltušas puķītes,—
Pašķirstiet šo krājumiņu:
Esmu atstājis uz lapām
Ziedoni un svaigas krāsas,
Domas patiesas un jūtas.

*1912*



Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых
Кнігі, ўжо даўно забытай,
Блёклы, высахшы лісток,—
Праглядзіце гэты томік:
Засушыў я на паперы
Краскі, свежыя калісьці,
Думак шчырых і чуцця.

*1912*

# Vajāšana

Dzimtā zeme, kad sirdī vien jūtu
Draudus, kurus tev liktenis nes,
Ausmas Vārtos tad atmiņu sūtu,
Redzu jātniekus ģērbonī es.

Baltās putās ir notriekti zirgi,
Dūmos melnajos vajājot krāc...
Vecais lietuvju varenums mirgo,
Un to neuzveiks pretspēks nekāds.

Dun aiz jātniekiem gadskārtas senas,
Gadi priekšā tiem, trakuļiem, zib.
Kur tie tagad ar zobeniem dzenas?
Un ko meklē, ko vajāt tie grib?

Mana baltkrievu zeme, dēļ tevis
Vajā tavējos dēlus varbūt,
Kas reiz, nelaimē glābdami sevi,
Gūstā gribēja dzīvību gūt?

Cērtiet zobenus, cērtiet tiem sirdī,
Lai par svešnieku nekļūst neviens!
Satrauc ilgas pēc tēvijas, dzirdi,
Dzimtais mājoklis dvēseli sien!

Tēvu zeme, šīs mūžīgās sāpes
Dziļi krūtīs kā ugunis mīt...
Pieņem dēlu tu grēksūdzes slāpēs,
Lai par tevi viņš cīnoties krīt!

## Пагоня

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,—
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,—
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Skanot iemauktiem, atjoņo zirgi,
Dūmos melnajos vajājot krāc . . .
Senais dzimtenes varenums mirgo,
Un to neuzveiks pretspēks nekāds.

*1916*

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.

*1916*

# Svešumā

Grimst apkārtne ziedos — tik raiba un skaista,
Bet skumjas tā nespēj no manis prom dzīt:
Te vientuļā paēnā skatienu saista
Šī rudzupuķe, kas aizmirsta spīd.
«Sveiks, tautieti!» pamāj tā lakatiņu —
Tik zilu kā debess, kas dzimtenē zied.
«Lai pieminam bagātā svešumā viņu —
Šo nabaga zemi, kurp domas mums iet.»

*1908*

# На чужыне

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць.
Маркотна між іх я хаджу адзінок,
Аж бачу — мне сіняй галоўкайківае
Наш родны, забыты ў цяні васілёк.
«Здароў будзь, зямляча!» Чуць бачны ў даліне,
Панура, нявесела шэпча ён мне:
«Ўспамянем, мой дружа, ў багатай чужыне
Аб беднай, далёкай сваёй старане».

*1908*

## Ziedonis nāks

Stindzina aukstums. Un vilka vaidā
Iekaucas vējš.
Putenis trakuļa dancī svaidās.
Un pēdas dzēš.
Tomēr sirds krūtīs vēl nepadodas:
«Ziedonis nāks!
Lai tikai zeme triec ziemu pie joda,
Plīst ledus vāks!»
Saulīte uzsmaidīs, mežos un pļavās
Zāle dīgs,
Liksies tad bēda plaukstās tavās
Kā olis sīks!

*1908*

# Прыйдзе вясна

Холадна. Вецер па полі гуляе,
Вые, як звер.
Снег узрывае, нуду наганяе,—
Кепска цяпер!
Але мне сэрца пяе: не нудзіся!
Прыйдзе вясна!
Гукне: «Прачніся, зямля! прабудзіся
З цяжкага сна!»
Сонца прагляне, зазелянее
Траўка ў лугу,
Гукне вясна і, як ветрам, развее
Гора-нуду!

*1908*

# Vadātāja kristības

Sapņus sasaucot kopā, šalkoja sils,
Un tam pāri lidoja tādi kā čīksti:
Priedes galotnē vadātājs šūpuļa līksti
Bija pacēlis augstu, kur debesis zils.
Mēness meta gaismu apaļš un bāls,
Egles slēja pret mākoņiem tumšus krustus,
Un, lai pagāna dvēsele bijību justu,
Zvaigžņu ceļš pletās mirdzošs un tāls.

*1909*

# Хрэсьбіны лесуна

Бор шумеў, навяваў зводны сон.
А у ім ціхі гул раздаваўся,—
Гэта ў небе лясун калыхаўся
На вяршынах вялізных сасон.
Яму месяц маркотны свяціў,
Падымалі крыжы ў неба елі,—
І у сіняй нябеснай купелі
Душу дзікую ён ахрысціў.

*1909*

# Vecums

Deg irbenāji un apses,
Kas sarkanās lapas met,
Steidz māla kukuržņus apsegt,
Jo rudens jau ziemu ved.

Un mežainis, sagumis plecos,
Pa dubļainiem ceļiem klīst.
Vējš dīrā tam kažoku veco,
Bet ragi pret stumbriem plīst.

Ceļš izdangāts peļķēs un lāmās,
Bet lietus joprojām vēl gāž.
Tur odze aizlokās rāma,
Kur spalvaino kāju tas bāž . . .

Līdz ādai viņš izmircis smagi,
Līdz nāvei noguris viss;
Cērt ledu kā stiklus tam nagi,
Gar stilbiem plūst asinis.

Līdz dūksnājam nokļūt tas vēlas,
Kur sūnas jau paklāju pleš.
Šeit apsēm birst asaras žēlas
Un alkšņi vien nopūtas dveš.

*1909*

# Старасць

Палаюць асіны, каліны,
Чырвоныя сыплюць лісты
І вязкай жаўцеюшчай гліны
Цяжолыя крыюць пласты.

Брыдзець, пахіліўшысь панура,
Лясун на раздоллі дарог.
Абшарпана старая скура,
Зламаўся аб дзерава рог.

Дарога ўся ў лужах. Размыта
Дажджом праліўным каляя.
Гразь чаўкаець жадна капыта,
Шуршыць, упаўзая, змяя.

Касматая шэрсць перамокла,
Стаміўся ён, стары, прадрог;
Лёд тонкі і востры, як сцёкла,
Капыта царапаець ног.

Спяшыць ён дайсці да трасіны:
Там — мяккія, цёплыя мхі,
А тут толькі плачуць асіны
Ды б'юцца галіны альхі.

*1909*

# Rudens naktī

Ar kvēpiem apsedzas vakars,
Un upe zem lietus plūst;
Vējš plosās uz pelēkās takas
Un brīžiem par vilku kļūst.

Zem ūdens ne vēja, ne moku,
Vien viļņi virs galvas skan.
Uz rata uzlieku roku,
Teic sudmalas pasaku man.

Grab dzirnakmeņi kā draudi,
Pat sienas no dunoņas trīc,
Bet domas — kā vārpas bez graudiem —
Uz nakti atvelkas līdz.

Es griežu bez nodoma ratu,
Un galva man miegā jau slīd,
Bet negaiss liek soli platu
Un kokiem cekulos krīt.

*1909*

# Асенняй ночай

Чарнеецца сажаю вечар.
Дождж б'ецца аб хвалі ракі;
Гуляе, гудзе над ёй вецер,
Заводзіць, што ў полі ваўкі.

Спакойна мне тут пад вадою:
Залёг я ля млына на дне;
Апруся на кола рукою,—
Млын казку старую пачне.

Кругі завіруюцца жорнаў,
Трасецца хадырна сцяна;
А думы — як колас без зёрнаў,—
Усё мяне цягне да сна.

Бяспамятна колы піхаю,
Хілюся да дна галавой
І ўжо я драмлю, засыпаю
Пад шум непагоды глухой.

*1909*

## Pie kapa

Ceļa malā, klajā laukā
Vientuļš kaps.
Laiks pēc negaisiem vēl ilgi
Neatlabs.
Pāri kapam galvu noliec
Irbenājs:
Viņu rudens vēji loka,
Sniegi klāj.
Pāri vientuļajam kapam
Dziesma neapklust,
Kas mums pastāsta par viņu,
Kas zem smiltīm dus.

*1908*

# Над магілай

Каля шляху ў чыстым полі
Магіла стаіць;
Кругом круціць завіруха,
Гуляе, шуміць.
На магіле адзінока
Каліна расце;
Яе вецер абвявае,
Мяцеліца гне
І навокала магілы
Спявае-гудзіць
Пра таго, хто ў чыстым полі
Пахаваны спіць...

*1908*

# Vakars

Es redzu mēnesnieku zaļu,
Kas drīzi kļūs kā sniegi balts.
Zem kļavas sapņiem ļauju vaļu
Un redzu mēnesnieku zaļu.

Sen visi dus. Kas tiem par daļu,
Ka šaujas miglas dūmu šalts
Un apskauj mēnesnieku zaļu,
Kas drīzi kļūs kā sniegi balts.

*1910*

# Вечар

На небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане снегавым.
Над лесам, дзе шапочуць клёны,
У небе месяц ўстаў зялёны...

Ўсё спіць. Не бачыць свет стамлёны,
Што, свецячы праз хмарак дым,
У небе месяц ўстаў зялёны
І хутка стане снегавым.

*1910*

# Pie zemnieka kapa

Guli mierīgs! Zārks dots mantojumā tavā:
Tikai to tu esi nopelnījis sev,
Plosoties bez elpas dārzā, druvā, pļavā,—
Nu par visu zeme atmaksāja tev.
Uzvelta uz krūtīm bieza māla sega
Un uz acu plakstiem smilšu saujām bērts...
Saltā kapu zeme, vai bij viņam jēga
Cīkstēties ar tevi — vai tas mūža vērts?

*1910*

# Над магілай мужыка

Спі, бядак! Накпілась доля над табою:
Ты рабіў, а ўвесь здабытак твой — труна;
Ўсё жыццё сваё змагаўся ты з зямлёю,
Але ўрэшце ўсё ж асіліла яна!
Над табой пласт гліны цяжкай навaліла,
Грудзі ўпаўшыя прыціснула пяском...
Дык скажы ты мне, халодная магіла:
Для чаго ж змагаўся цягам ён з жыццём?

*1910*

2—1662

# Mana dvēsele

Kā vanadzēns tā raujas gaisā
Un pretim padebešiem plīv,
Kur putni droši klaigas kaisa,—
Kā vanadzēns tā raujas gaisā.

Šais balsīs klausoties, tā raisās
Un skrien, kur kalnu plašums brīvs.
Kā vanadzēns tā raujas gaisā
Un pretim padebešiem plīv.

*1910*

# Мая душа

Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор,
Вартуе вольных птушак крыкі,—
Мая душа, як ястраб дзікі.

Учуўшы іх, страсе вялікі
Свой сон, шыбне ды вышай гор,—
Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на прастор!

*1910*

## Pirmā mīlestība

Pa šaurām ielām klusums staigā
Un pavasara nakti pleš.
Man pārgalvīga līksme vaigā,
Sirds katrā pukstā laimi dveš.

Es priecīgs eju garām mājām,
Un krūtīs maija dvaša līst,
Bet man zem silti autām kājām
Uz visām pusēm peļķes šķīst.

*1911*

# Першая любоў

Ўжо позна. Мрок вясенняй ночы
На вузкіх вуліцах ляжыць.
А мне — вясёла. Блішчаць вочы,
І кроў ад шчасця аж кіпіць.

Іду я радасны, харошы,
Знікае з сэрца пустата...
А пад рызінавай калошай
Ціхутка хлюпае слата.

*1911*

* * *

Uz ielas jūs satikt es vēlētos,
Naktī, klusā un zilā,
Un pasacīt:
«Redzat tur, Herkulesā,
Šīs lielās un mirdzošās zvaigznes?
Mūsu saule turp traucas
Un zeme aiz tās.
Bet kas tādi mēs?
Tik ceļnieki-gājēji debesu tālēs.
Tad kālab
Šie ķīviņi, strīdi, sāpes un rūgtums,
Ja visi mēs lidojam kopā
Uz zvaigznēm?»

*1915*

* * *

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя,— папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

*1915*

# Triolets

Ir tumšāks daudz par Jūsu bizēm
Šis mūsu atšķirtības laiks.
Kāpēc šais nedienās mans vaigs
Kļūst tumšāks daudz par Jūsu bizēm?
Un tāpēc trioletā maigs
Šis noskaņojums skumji vizēs:
Ir tumšāks daudz par jūsu bizēm
Šis mūsu atšķirtības laiks.

*1912*

## Трыялет

Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.
Чаму ж нядобры час прынёс
Мне доўгае расстанне з Вамі?
Я пабляднеў ад горкіх слёз
І трыялет пачаў славамі:
Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.

*1912*

* * *

Viedīgām runām
Medus zeltdzeltens,
Ar pilnām šūnām
Man tāds pa prātam;

Toties ne mazāk
Tīkamāks sirdij
Medus, kam reibums
Dzirkstīgs un smalks.

*1911*

* * *

Мудрай прамовы
Мёд залацісты,
Поўныя соты
Мне даспадобы;

Але не меней
Сэрцу панадны
Мёд сваім хмелем
Светлым і тонкім.

*1911*



Jums, pan, tīk vecvecās grāmatās, senaizmirstās,
starp lappusēm, starp sausām, pussadzeltējušām,
ziedu sakaltušu rast, kam ne krāsu vairs, kam tik
tikko ziedlapiņas trauslas turas. Trīsas pēkšņi sirdi
pārņem, — kam saglabāts, kas reiz ir bijis, sirdī
senilgots? Joņiem dvēselē viss uznirst, uzbango,—
sen mīļu atjaudu dzirksteļojošs spiets. Vēl pārdzīvo-
jot domās ikreiz vairs neatsaucamos brīžus tos, par
visu tuvi dārgāks ir šis izbalojis zieds.
Vārsmas, vārsmas, man tik dārgās! Necilas tai
stundā radāties, kad krūtis sēri uzvilnīja. Kaut
smaržu svaigums vairs ne tas, kas bijis kādreiz, viss
viens, uz brīdi jūtas pierimušas, un tak jau tomēr
jums, ziedlapiņām, man tencinājums jāpateic.
Kas mani vilnījis reiz pašu, lasītāju atstāt nespēs,
atceres un sabangotās jūtas. Kas pārdzīvots, viss
palicis uz mūžu ar kārtu kārtu kārtām sirds slēptos
dziļumos. Jūs, manas vārsmas, celiet, modiniet,
sašūpojiet šo atmiņkārtu slāņus: lasītājs lai spēj vēl
un vēl no jauna pārdzīvot, kas kādreiz bijis, bijušo!

*1911*



Пэўна любіце вы, пане, між страніц старых, пажоўклых кнігі, ўжо даўно забытай, адшукаць сухі цвяток. Пабляднелі яго фарбы, ледзь трымаюцца лісточкі... Але колькі ён прабудзіць ў сэрцы кволым пачуцця! Чаго вы цвяток хавалі, што жадалася, збылося — ўсё ўсплыве ў душы і збудзіць мілых згадак доўгі рой. У думцы зноў вы пражывеце беззваротныя часіны, і для вас каштоўным стане гэты высахшы цвяток.

Вершы, вершы дарагія! Спарадзіў я вас, маленькіх, ў час, калі мне падымала грудзі хваля пачуцця. І няхай яно з вас знікла, хай збляднелі вы, засохлі, ўсё ж вы будзіце мне згадкі, і за гэта дзякуй вам. Не абміне і чытач вас. І ў яго калісь бывала мысль супольная з маёю, тая ж хваля пачуцця. Ўсё калісь пражытое пакідала след у сэрцы і ляжала нерухома цёмнай залежжу, пластом. Разварушце ж, мае вершы, гэты пласт: хай згадка згадку кліча, цягне, хай чытач мой зноў былое пражыве!

*1911*

# Veronika

*Stāsts dzejā*

Ê un pensier del mio capo.
*Giovanni*

Caur gadu gadiem laiks tas miņā
Kā zīmogs spulgs man saglabāts:
Tiklīdz uz galda papīrs klāts,
Turp viegli aizsteidzas ik dziņa,
Kur bērnība pa rasu nāk
Un savu stāstījumu sāk.

Es redzu ieliņu un māju,
Ko klusums vīnastīgām vij,
Bet blakus strazdu būri bij;
Es vecā dārzā speru kāju
Un skaru šķībus zedeņus,
Kas, zālē ieauguši, dus.

Vai satikšu vēl tur Zabelu,
Kam kupla saime apkārt skan?
Tur atkal gribas pabūt man —
Vai jumtā uzkāpt ir par vēlu?
Un ābolus tur purināt —
Arvienu pirmais esmu klāt!

Un bezbēdīgā puikas kvēlē,
Kad viss pa gaisu gaisiem iet,
Es cenšos allaž pirmais skriet
Ik katrā rotaļā un spēlē.
Ja bumba tieši krūtīs krīt,
Tad vajag raudas savaldīt!

---

Viņa — manas galvas izdoma.
*Džovanni (ital.)*

# Вераніка

*Вершаванае апавяданне*

E un pensier del mio capo.
*Giovanni*[1]

Я на душы ўражлівай маю
Жыцця мінулага пячаць:
Схачу свой вольны верш пачаць,—
І ўраз пра прошлае згадаю;
Удаль вядуць мяне сляды
Да вас, дзіцячыя гады.

Ўстае перад маім паглядам
І вулка, веючая сном,
І ціхі старасвецкі дом
З цяністым, адзічэлым садам;
Над ім шпакоўніца ў гары,
А ўкруг схіліўся тын стары.

Дом гэты да паноў Забелаў,
Суседзяў нашых, наляжаў;
Я змалку там штодзень гуляў,
З дзяцьмі іх лез на дахі смела,
Рваў яблыкі, рабіў садом
І крыкам поўніў цэлы дом.

Вясёла йшлі гулянкі нашы:
Пад шум і гук размах рукі
Збіваў здалёку гарадкі,
Быў чутны смех пры відзе «кашы»,
І кожны стрымываў свой плач,
Калі ўразаўся ў плечы мяч.

---

[1] Яна — выдумка маёй галавы.
*Джавані (італ.)*

Nav miera baložiem pret rietu:
Mēs trenkājam un dzenam tos,
Lai lido sārtos debešos
Un ķiršos nemeklē vairs vietu.
Par lidoņiem liels bērniem prieks —
Uz jumtiem putni krīt kā sniegs.

Kad vakars plecos uzkar zvaigznes
Un bāli zilgu gaismu lej
Līdz vārtiem un līdz pamalei.
Tur vēji dziesmu ceļ un aiznes —
Tāls, labs un smeldzošs sērīgums
Ir dvēselēs un balsīs mums.

Tā rotaļās skrien bērnu dienas,
Un gadi neredzami iet.
Zabelas meita blakus zied,
Nav viņai draudzenes nevienas.
Sirds tagad skumji atzīstas,
Ka viņu pazinu tik maz.

Ir grūta dzīve Veronikai
(Tāds viņas vārds), jo māte mirst,
Un laimes pavedieni irst . . .
Bet tēvs, lai cik tas pūļu lika,
Cik centās mīļi parunāt,
Pie meitas sirds viņš netiek klāt.

Un tāpēc klusēdama viena
Uz stundām viņa labprāt zūd
Zem ābelēm, kur mieru jūt
Un zāle atsmaržo pēc siena,
Bet pāri sapņains klusums klāts —
Ir tikai jūras dzelmei tāds.

А вечарком мы выпускалі
Ў паветра белых галубоў.
Зрабіўшы некалькі кругоў,
У вышыню яны шыбалі,
Як чысты снег, кружылі там
І падалі на дахі к нам.

Калі ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх свет праз небасхіл,
І уплятаўся вулак пыл,—
Мы ўсе пяялі каля хаты,
І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песняй сціхшы двор.

Так у гулянках пралятала
Маё дзіцячае жыццё,
А поруч ціхае дзіцё,
Дачка Забелаў, узрастала.
Яе я мала знаў: яна
Ўсягды была сама, адна.

Жылося цяжка Вераніцы
(Хай так дзяўчыну будзем зваць):
Яе памерла рана маць,
І не было саўсім сястрыцы,
А бацька сэрца хоць і меў,
Ды прытуліць яе не ўмеў.

Таму з маленства палюбіла
Хавацца ў сад стары яна,
Дзе веяла дыханне сна
І цішыня ў паветры плыла,
І нерухомы быў спакой,
Маўляў у глыбіні марской.

Šeit ķiršiem nepakustas zari,
Tik ziedos nopland ceriņkrūms
Kā zilgans pavasara dūms,
Ko viegli šūpo saules stari.
Zem zariem klusi ēnas dus —
Kā sargot jūras dziļumus.

Un Veronika sarunājas
Ar grāmatām, kas allaž tai
Ir līdzās katrai pastaigai.
Tvīkst sārtas zemenes aiz mājas,
Bet apiņi jau stīgas vij
Ap maikstīm līdz pat debesij.

Kā čukstot šķiras lapaspuses,
Kas Veronikai ilgas ver,
Un viņa jaunas domas tver;
Tās dvēsele vairs nespēj klusēt,
Jo skaisti atraisās kā zieds,
Ko tikai saulei blakus liec.

Kad rudens uzmet dārzam svārkus
Un bērzi gaišā zeltā spīd,
Bet pīlādžos to blāzma krīt;
Kad koki projām vada stārķus,
Kad sirmo pirmais agrais sals
Un siltām dienām pienāk gals;

Kad lapas nomet liepa, kļava,
Starp zariem vārnu ligzdas var
Acs redzēt, kā tās vēji skar;
Kad debesis deg rieta skavā,
Kļūst pēkšņi ceriņkrūmam bail,
Jo palicis uz ziemu kails;

Не калыхнуцца лісцяў хвалі,
Ўсплёснуўшы пенаю цвятоў
Паверх чарэшневых кустоў;
Кіпіць шум места дзесь там далі,
А тут і глуха і цямно,—
Не зварухне марское дно.

І забывала Вераніка
Між зёлак з кніжкай аба ўсём,
А ўзгляне,— сад кіпіць жыццём:
Над ёю куст шыпшыны дзікай,
Бруяе блізка сонны шмель,
І горка пахне тонкі хмель.

Ізноў страніца за страніцай
Раскрытай кнігі шалясціць;
Нячутна час кудысь бяжыць,
Раяцца думкі Веранікі,—
Усё расце душа яе
І ў паўнаце красы ўстае.

Калі ж асеннія навіны
Змянялі сад, калі з бяроз
Рваў лісце вецер, а мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі прэлых лісцяў слой;

Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага галля чарнелі,
І грозны вечара пажар
Пылаў між бура-шызых хмар;

Kad rudens vējš ar bargu dārdu
Un vaidu vecā dārzā brūk,
Pat zvirbuļi no stigām mūk,
Dzird dobji dunam jumta skārdu;
Kad puteņi pie sliekšņa kauc,—
Uz skolu Veronika brauc.

Bet laiks uz priekšu žigli steidzas
Un atmiņās tos gadus krāj:
Ar spēlēm, baložiem tie māj.
Mums arī bērnība jau beidzas,
Nu dažam puisim laimes jau
Par ūsām lielākas vairs nav.

Tad pirmo reizi jūtu prieku,
Jo nemanāmi acīs man
Zieds gaiši atvēries un skan.
Es savas karstās ilgas lieku
Nu dzejolī, lai liesmās deg,
Kā meži šalc, kā upe tek.

It kā no izkausēta vaska
Tur vārdi pil un pil kā strauts,
Un straumē rodas formu daudz,
Bet ilgas tālāk traucas naskas.
Vai jums vairs tagad noslēpums:
Par ko pants priecājas un skumst?

Un to jums nenoslēpšu arī,
Ka aizsūtīju dzejoļus
Es Veronikai . . . Gaidu kluss:
Vai vēstule kā pavasaris
Ar gājuputniem atlidos
Un sirdij atbildi man dos?

Калі асенні вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш жалезны дах,—
Тады да лета Вераніка
Ад нас знікала ў інстытут
І не будзіла згадак тут.

А час усё каціўся далі,
Хаваючы на дне гадоў
І гарадкі і галубоў;
Мы непрыкметна падрасталі,
А іншы ўжо шчыпаў вусы
І лічыў іх гарой красы.

І толькі ўжо тады я ўгледзеў,
Што поруч, як цвяток лясны,
Ўзрасла ў красе сваёй вясны
Дачка самотная суседзяў.
І — помню я — тады ж ўперш
З маей душы паліўся верш.

Ён там кіпеў струёй жывою,
Праз холад мыслі працякаў
І ў цвёрдых формах застываў,
Як воск гарачы пад вадою,
Каторым трэба вам гадаць,
Аб чым той вершык меў казаць.

Я ж сам скажу йшчэ тое толькі,
Што к Вераніцы твор паслаў
І млеў і ўсё адказ чакаў.
Аж вось прайшло маруды колькі
Трывожных дзён, а ўсё няма
Ні Веранікі, ні пісьма.

Bet gadi iet, to nesagaidu,
Un arī Veronikas nav.
Kad viņu satieku, gan jau
Tad pārmest iegribas... Bet smaidu
Tik nevainīgu redzu pats,
Ka man no laimes notrīs acs...

Skan tikai bērniem šādi smiekli
Vai cilvēkiem, kam skaidra sirds
Un acis gaiši pretim mirdz.
Kā cīrulis tie laižas viegli
Un manu mīlu spārniem skar,
Tad nodreb, gaist kā saules stars.

Pār viņas seju klājas ēna
Un pierē rūpju krokas auž,
Bet balss kā maiga vēsma glauž,
Kad roka gulst uz pleca lēnām
Un taujā čukstus man: «Vai sāp?»
Silts kamols krūtīs aug un kāpj.

Nē, zvaigznīt, tevī lūkojoties,
Es varu tikai priecāties:
Cik daiļuma tu nes paties
Šai pasaulei. Un pati proti
Kā rasa sidrabota būt,
Kas rudzu druvā nepazūd.

Un liekas tad, ka blakus māte
Man tuvu mīļu galvu liec
Un padomu un glāstu sniedz,
Lai kļūtu gaišs un cildens prātā.
Kā jaunatklātais daiļums zied —
No viņa projām neaiziet!

Калі ж я неяк з ёй спаткаўся,
Загаварыўшы, як у сне,—
Яна зірнула на мяне,
І раптам з вуст яе сарваўся
Такі бязвінны, чысты смех,
Што на яго злавацца — грэх.

Смех гэткі маюць толькі дзеці
Ды людзі з яснаю душой;
І ён, як жаваранак той,
Звінеў і ўжо кахання сеці
Нячутна нішчыў, як ураз
Сарваўся, дрогнуў і пагас.

Накрыла ясны твар дзявочы
Задумы сумная імгла,
На плечы ручка мне лягла,
Спагадліва зірнулі вочы
І даляцеў к маім вушам
Ласкавы шэпт: «Мо больна вам?»

Не, зорка, мне было не больна,
Бо бачыла адно душа,
Як ты свяжа і хараша,
Як рада ты жыццю нявольна,
Уся пад срэбнаю расой
Са йстужкай скромнай між касой.

І мела дзеўча выгляд маці,
Калі тады ка мне яна,
Трывожнай ласкаю паўна,
Схілілася, як да дзіцяці,
Зіяючы перада мной
У новай пекнасці жывой,

Šeit jaunavas un mātes skaistums
Jau kopā apvienojies ir —
Šīs abas puses neizšķirt,
Jo tad jau viss zem saules gaistu!
Raug, Madonna, tās dižums cēls —
Tavs mūža sapnis, Rafael! . . .

Un dīvas dailes apskaidrota,
Šalc dvēsele kā ugunskurs,
Kas jaunu gaismu tvers un kurs,
Kamēr tai dzīvība būs dota.
Šīs uguns atblāzmojums spožs
Būs ceļvedis man tumsā drošs.

Un uguns šī joprojām silda,
Kaut šķita: izdzisusi bij,
Bet tad no jauna liesmas vij
Un dvēseli ar laimi pilda.
Tā senas zīmes atdzimt var,
Ja silta roka radzes skar.

Līdz Parnasam sirds tagad jātu,
Lai apdziedātu izjusto.
Kur Pegazs? Pameklē nu to
Un padomā ar vēsu prātu:
Kā viņš pa akmens bruģi skries?
Mans dzejas pant, ej atpūties!

* * *

Es atkal vecā ciemā esmu,
Kur bērnība ik takā māj,
Bet sienas mājām sūna klāj,
No durvīm veļas skumja dvesma.
Es redzu biezus putekļus,

У тэй, што з постаццю дзяўчыны
Злівала мацеры чарты.
О, як прыгожы-дзіўны ты,
Двайной красы аблік ядыны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадонн тварыцель, Рафаэль!

І прад высокаю красою,
Увесь зачараваны ёй,
Сканіўся я душой маёй,
Натхненнай, радаснай такою,
А ў сэрцы хораша было,
Там запалілася цяпло.

Дасюль яшчэ яно пылае;
Здаецца — ўмёрла, але ўраз
Праб'ецца зноў, і пройшлы час
Прад ім у згадках праступае,
Як пры агні ці цеплаце
Таемны подпіс у лісце.

І конь крылаты да Парнаса
Мой дух імчыць тады, каб я
Былое апяваў пасля.
Ды як знайсці сляды Пегаса
На бруку места? Цяжка ўперш!
Спачынь жа трохі, верны верш!

* * *

Ізноў пабачыў я сялібы,
Дзе леты першыя прайшлі:
Там сцены мохам парaслі,
Вясёлкай адлівалі шыбы,
Усё ў пылу. І стала мне

Kas sērīgi uz logiem dus.
Es dārzā iegriežos. Kur tika
Reiz pārgalvīgi skriets un smiets,
Jau aizmirstība zāli liec
Un tikai vārdiņš «Veronika»,
Kas koka mizā iegriezts bij,
Par senām dienām stāstu vij.
Es daudzinu un sveicu koku,
Lai aug kā piemineklis dzīvs,
Šo vārdu glabā svēts un brīvs,
Pleš lapotni kā zaļu loku:
Jo gadi tālāk iet uz zūd,-
Sirds stiprāk mīlestību jūt.

*1909—1912—1913*

Так сумна, сумна ў цішыне.
Я ў сад пайшоў. Усё глуха, дзіка,
Усё травою зарасло.
Няма таго, што раньш было,
I толькі надпіс «Вераніка»,
На ліпе ўрэзаны ў кары,
Казаў вачам аб тэй пары.
Расці, ўзмацовывайся, дрэва,
Як манумент жывы, ўставай
I к небу надпіс падымай.
Хай нерухомы словы спева:
Чым болі сходзіць дзён, начэй,
Тым імя мілае вышэй.

*1909—1912—1913*

# Grūtniecei

Paklusām soli liec, iedama bērniņu šūpo sev klēpī,
Viņam tas mīlīgs un silts, klēpī kā šūpulī guļ.

---

Zem tavas sirds bērns patvēries,
Un briest, kā grauds briest smagā vārpā.
Gaist diena nelabā, vien prātā
Tas gaišākais, viss tumšais dziest.

Nekas vēl sirdi nenomāc,
Ne bijums kāds, vien rūpe apņem,
Vien saldi, svētlaimīgi sapņi
Un balta doma, mierīgs prāts.

*1912*

# Да вагітнай

Ціха ідзеш ты, у нетрах дзіцёнка хадою калышаш,
Цёмнай і цёплай яму служыш калыскай цяпер.

---

Дзіцё, што ў коласе зярно,
Пад сэрцам у цябе ўсё спее,
І сэрца цёмнае святлее,
І шчырым робіцца яно.

Ужо нічога ў ім няма,
Адно ёсць — рупнае каханне,
Салодка-соннае бажанне,
Салодка-сонная дума.

*1912*

# Lāsts grūtniecei

Vēl agrs rīts. Pie durvju sliekšņa
Stāv kāda noskrandusi viešņa.
Tai rotas sudrabotas spīgo,
Un pati cēla, valdonīga.
—«Ļauj pazīlēt . . .» — «Nekādiem burvjiem
Es neticu, ej prom!» Aiz durvīm
Šņāc čigāniete, ejot projām:
«Tavs bērns, pirms dzimis, aizies bojā!.»
Ar smieklu, neskaņi un spēji
Tu trīcot, visa nobālēji.

*1912*

# Пракляцце вагітнай

К твайму аконцу каля ганка
Падходзіць варажыць цыганка
Ў лахмане зрэбным і нячыстым
Са срэбрам ззяючым маністам.
І, чуючы твае адмовы,
Шыпіць пракляцця злыя словы
З пaглядам у пагляд упёртым:
«Каб ты дзіцё радзіла мёртвым!»
І, засмяяўшыся нясмела,
Ты задрыжэла і збляднела.

*1912*

* * *

Pēc radībām ar katru dienu dilsti:
Vaigs sniega balts bez asins lāsītes,
Karst lūpas, sasprēgājušas un sausas,
Tām pāri reizēm pārslīd nedrošs smaids
Un tūdaļ izdziest, bikls, bezpalīdzīgs.
Kā ēnas izmocītā sejā tumst
Zem acīm loki zilgani, bet acis
Par viņu it kā apžēloties lūdz.

Tā pūkaina un trausla pienenīte
Pa vēju lidinās, lai izsētos
Un laikus vērtos ziedā saulainā.
Vien slābais stiebrs vēlāk liecinās
Par dzīvību, kas bērniem atdota.

*1912*



Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш:
Асунулася цела, зблякла твар,
Засмяглі і растрэскаліся губы;
На іх парой няпэўна прабяжыць
Пасмех — і знікне, жалкі і пужлівы;
Як сцені, сіняватыя кругі
Навокала вачэй ляглі, а вочы
Як быццам просяць злітавацца ўсіх.

Так крохкая, пушыстая багатка
Пад ветрам аблятае, каб магло
Яе насенне узрасці і кветнуць,
І толькі кволае сцябло пасля
Гаворыць аб жыцці, дзіцям адданым.

*1912*

* * *

Viss reiz paiet — gan prieki, gan mokas,
Bet tu atmiņā paliksi man . . .
Melnas uzacis, tieviņas rokas,
Gaiša galva — kā apzeltīts zvans! . . .

*1915—1916*

* * *

Ўсё праходзе — і радасць, і мукі.
Але будзеш мне помніцца ты,—
Броўкі цёмныя, вузкія рукі
І галоўкі радок залаты.

*1915—1916*

* * *

Tas bija nesen: virpām griezās sniega svelpa,
Šai pagājībai pēdas aizvilkdama ciet.
Tā pierima . . . Tālāk gadi gurdi iet,
Ne spārnus plest, ne garam celties, pietrūkst elpas.
Kā būt, kā dzīvot, pasakiet!

Kvēl sirdī skumju uguns liesmu mēlēm melnām.
Vai to ar asarām man dzēst, lai tajās zūd
Viss drūmums, ciešanas un sirdī tad varbūt
Dīgs cerība kā grauds no uzrakņātiem pelniem?
Ko pasākt man, kā turpmāk būt?

*1911*

* * *

Была калісь пара: гучэла завіруха
І замяла маей мінуўшчыны сляды.
Усціхла ўжо яна... Плывуць удаль гады,
А ўсё не б'юцца скрыдлы духа:
Куды цяпер ісці? Куды?

Ў душы гарыць агонь нуды,— пануры, чорны.
Ці мне крыніцай слёз сваіх яго заліць
І плугам цяжкага мучэння сэрца ўзрыць?
Мо ўзойдуць там надзеі зёрны!..
Куды ж ісці і што рабіць?

*1911*

# Vectēvs

Tāds siltums augu dienu dveš —
No cepļa nokāpj vectēvs arī,
Kur saule — upes malā — kreš
Un pagriež sānus pavasarim.

Pēc medus smaržo ceļmalas,
Šalc ūdeņi un meži tuvi . . .
Bet vectēvs neskumst it nemaz,
Ka drīz par zemīti būs kļuvis.

*1913*

# Дзед

Так цёпла цэлы дзень было,
Што дзед — і той сцягнуўся з печы,
Ля рэчкі сеў, дзе больш пякло,
І грэў пад старай світкай плечы.

Сінеўся бор, цякла вада,
Скрозь пахла мёдам і травою...
А дзеду нат і не шкада,
Што хутка будзе ён зямлёю.

*1913*

# Uz ezera

Saule ripo no pakalna lejā;
Mēness bālganas asaras kaisa,
Saņem ezera atblāzmu sejā.
Velk no atvariem tīklu un raisa
Bizes ezera draikulēm — nārām,
Kas stiepj lomu uz savējo pusi.
Viņām, rasas un ūdeņu kārām,
Vakars ausīs čukst:
«Sapņojiet klusi!»

*1909*

## Над возерам

Сонца ціха скацілася з горкі;
Месяц белы заплаканы свеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.

Ў іх русалкі заблуталі косы,—
Рвуць і блутаюць срэбныя ніці;
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча русалкам: «Засніце».

*1909*

# Vētra

Tā drūmi pelēka un liela, dzīva
Pār debess tālēm lēni gurda veļas.
Tad klusums īss, kas tūdaļ pušu šķeļas,
Cērt zobens mākoņus kā uguns plīva.

Tad vēlreiz cērt, un duna dārdot brāžas
Un mētā zobenu, aug skaļāk rība,
No debesīm plūst asins straume slīpa,
Bet ļaudīm šķiet, ka lietus pāri gāžas.

*1911*

# Бура

Панурая, вялізная жывёла
Па шыры неба ўдаль марудна праплывае.
Ўсё сціхла. Але вось паветра рассякае
Агністы меч і зіхаціць вясёла.

Ударыў ён — і грукат пракаціўся;
Мігае грозны меч, удары не сціхаюць,
І ўніз халодныя бічы крыві сцякаюць,
А людзі кажуць: гэта дождж праліўся.

*1911*

* * *

Klusi pa pagalma mauru
Zilace nakts viegli staigā;
Klusi no tīrumiem plūst

Migla kā vīraka dūmi,
Paceļas gaisā un irst —
Zilgme gaišs plīvuris kļūst;

Debesis padarot dzīvas,
Apvāršņos uzliesmo zvaigznes,
Steidzoties vainagus vīt;

Sienāžu trijkalas atskan,
Atbalsis silti un rāmi
Ūdeņu spoguļos krīt.

Sudraba rasa krīt zemē,
Iedzirkstas gluži kā krelles
Ugunis logos un mirdz . . .
Vakardien izraktos kapos
Par veltīgi dzīvotiem gadiem
Sēro un sāp mana sirds.

*1911*

* * *

Ціха па мяккай траве
Сінявокая ноч прахадзіла;
Ціха з заснуўшых палян

Плыў угару і знікаў,
Быццам дым сіняваты з кадзіла,
Рэдкі, правідны туман;

Неба ўсю глыб ажывіўшы,
Патроху праз цемнь выглядалі
Зорак дрыжачых вянкі;

Конікі суха звінелі;
Шырэй разліваліся хвалі
Цёмнай, люстранай ракі;

Пала раса; у палёх
Загарэліся пацеркі мілых
Жоўта-чырвоных агнёў...
Час, калі трэба журыцца
Душою на свежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў.

*1911*

# Izraktais kaps

Polataj nad groby,
Piosenko żaloby.
*Żyglinski*[1]

Sparīgs lietus cērt un sitas,
Mājā dauzās vējš bez mitas
Dusmās — nav tam dziesmas citas.
Durvis trīc. Un loga rūts.
Ceļas viss, kas senāk mita,
Augstu vilni dzīvē sita,
Uzelpo no jauna krūts.

Piemin sirds, ko zaudējusi —
Mīlestības gaišo pusi,
Kura, seju novērsusi,
Tā kā sapnis zūd un gaist.
Raugos: sirds nav aizmirsusi
To, ko dzīve laupījusi . . .
Pat no kapa veras klusi
Tas, kas bijis mīļš un skaists.

*1909*

[1] Lido pār zārkiem,
Skumju dziesma.
*Ziglinskis*

# Разрытая магіла

Polataj nad groby,
Piosenko żaloby.
*Żygliński*[1]

Дробны дождж сячэ, ліецца;
Вецер злосна ў хату рвецца,
Ў полі стогнам аддаецца,
Стукне ў дзверы і акно —
Сэрца беднае заб'ецца,
І адразу ў ім прачнецца,
І адразу скалыхнецца
Ўсё, што згінула даўно.

Ўспомніць сэрца, што любіла,
Ўспомніць моладасць і сілу,
Ўсё, што знікла і уплыла,
Ўсё успомніць, як у сне.
Бачу: сэрца не забыла,
Што жыццё ў ім загубіла...
І разрытаю магілай
Вее сумна на мяне.

*1909*

---

[1] Ляці над трунамі,
Песня жальбы.
*Жыглінскі (польск.)*

* * *

Jūs sakāt: kad dzejnieku aplaimo mūza,
Tad brīnišķas vārsmas viņš iedvesmots sacer,
Jo debess to svētī un skūpsta,
Kā pirmo pār cilvēkiem paceļ . . .
Paldies jums, ka cildeni uzteicat mani;
Vai tiešām tik cēls un vēl aplaimots esmu,
Ja nebūtu zināms man, pani,
Ka dziesmo pat krupis aiz dvesmas!

*1909—1912*



Вы кажаце мне, што душа у паэта,
Калі спараджае ён дзіўныя вершы,
Нябесным агнём абагрэта,
І ў час той між люду ён — першы...
Ах, дзякуй Вам, дзякуй на гэтай прамове;
Душа мая, пэўна, шчаслівай была бы,
Калі б я не ведаў, панове,
Што пекна спяваюць і жабы.

*1909—1912*

# Sapnī

Es augstāk un augstāk pret kalnu gāju,
Es kāpu pret sauli, kas sasilda mūs.
Jo tuvāk tai cēlos, jo tuvāk tai stāju,
Jo skumjāk un drēgnāk man dvēselē kļūst.

Sals bargāk un negantāk skrāpējās sejā,
Un putenī likās, ka vilku bars kauc.
Pa kupenām noguris bridu es lejā,
Kur saulīte tālu, bet siltuma daudz.

*1910*

# Мне снілася

Ўсё вышэй і вышэй я на гору ўзбіраўся,
Падымаўся да сонца, што дае нам цяпло:
Але толькі чым болей да яго набліжаўся,
Тым усе халадней мне й маркотней было.

Заскрыпеў снег сыпучы пад маімі нагамі,
І марозам калючым твар пякло ўсё крапчэй,
І, пануры, стамлёны, ўніз пайшоў я снягамі,—
Сонца там хоць і далей, але грэе цяплей!

*1910*

* * *

Daudz ir ceļu uz pasaules šīs,
Un, lai dotos pa diez kādiem ceļiem,
Viss vienalga, vai vēlu vai drīz
Mēs tur tikāmies visi pie veļiem,
Kad ne spēka, ne satraukums kāds
Un ne cerību gaišo, ne spara.
Kā tad tā,— netiek skaidrībā prāts:
Katram ceļi bij dažādi gari,
Pretī tālēm mēs traucām mūždien,
Un nu tagad ar visu šo steigu
Mūs ir panācis klusītēm vien
Rāpus tārpiņš pie kapa beigbeigās?

*1913*

* * *

Шмат у нашым жыцці ёсць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы.
І без ясных надзей, без трывог,
Загубіўшы апошнія сілы,
Мы сайдзёмся, спаткаемся там
І спытаем сябе: для чаго мы
Па далёкіх і розных пуцях
Адзінока йшлі ў край невядомы?
І чаму паспяшаліся так,
Напружаючы ўсе свае сілы,
Калі ціха паўзушчы чарвяк
Ўсё ж дагнаў нас ля самай магілы?

*1913*

# Vārna un zvirbulis

*Fabula*

Vēl nesen bij tāds gadījums, jā gan,
Kad atlidoja vārna pieglaimīga
Pie zvirbuļa, pie tāda vāja, sīka.
«Vai līdzinos es ērglim, saki man!»
Tik vadonīga... Ko var zināt,
Varbūt, ka tas to vērts, ja vārnu pacildina.
«Tu ērglis īsts!»— zvēr balsī aizgrābtā
Šai zvirbulis, uz zara tupot.
«Nu, skaties! Lai tad paliek tā!»
Ar labpatiku pabrīdina un no čupas
Prom vārna aizlaižas.
Liels izbrīns apkārt: «Kas tad tas!
Vai, brālīt, tev vairs acu nav,
Ka vārnu sāc ar ērgli jaukt?»
Čiepst zvirbulis, aiz kauna sarāvies:
«Kas slikts, ja iztapu pa prātam;
Ne ērgli pielīdzinu vārnai, nedod dievs,
Bet vārnu ērglim — nelaime nekāda.»

*1915*

# Варона і чыж

*Байка*

Прыгода гэтая не так даўно была.
К чыжу (а сілы ён, як ведама, не мае)
Варона прыступае:
«Скажы, ці я падобна да арла?»
І бачыць чыж — з варонаю не жарты,
А ўласны хахалок чаго-небудзь ды варты.
«Зусім арол»,— адказывае чыж
Вароне клятай з клёна.
«Ну, то ж бо то! Глядзі ж!» —
З ласкаваю гразьбой пракаркала варона
І паляцела стуль далей.
Ўсё тое бачачы, здзівіўся верабей:
«Браток! Ці жа вачэй не маеш —
Арлом варону называеш?»
Засараміўшыся, чыж так пачаў казаць:
«Я гэтым не зрабіў благога.
Дай бог арла варонай не назваць;
Варону жа арлом — нічога».

*1915*

# Savrupis Gulbis

Nepūta eņģelis taurē —
Pats Dievs bija teicis no mākoņa Noasam:
«Nu pilns līdz malām tas dusmu mērs
Par ļaužu apgrēcībām.
Nāks neganta bardzība mana,
Līs no debesīm lietavas nebeidzamas,
No netīrās smirdoņas nomazgās zemi,
Pasauli balti brīvo».

Sāka Noass šķirstu tad būvēt
No koka — Libānas ciedra,
Šķirstu — simt olekšu platumā,
Garumā — tūkstotis vairāk.
Pa pārim paņēma Noass putnus un zvērus,
Lai neizzustu to dzimums.
Tikai Savrupis Gulbis, lepnais un stiprais,
No zilās jūras nedevās turp.
Viņa ieražas visas — kā ērglim,
Viņa draiskums — kā vanagam,
Spalvas — baltin baltas,
Bet rītausmā — lāsmainas.
Viņa spārnam — trīssimt trīs spalvas,
Pavēzē spārnu — šķiet iešalcas mežs,
Pavēzē vēlreiz — šķiet putenis svelpj.

Sāka līt straumēm, ūdeņi cēlās,
Applūda tīrumu āres,
Tīrumu āres, mežu meži,
Cēlās ūdeņi augstāk par kalniem.
Uzskrēja debešos putni,

# Страцім-лебедзь

Не анёл у трубу уструбіў —
З хмары Бог старому Ною гаварыў:
«Поўна з краем чаша гневу майго
На людскія грахі ды бясчыннасці.
Вось надойдзе часіна суворая,
Лінуць з неба залівы бязмерныя
І абмыюць ад бруду смуроднага
Ўсю зямлю яны, белы-вольны свет».

Пачынаў тут Ной будаваць каўчэг
З таго дзерава ліванскага.
Ўшыркі гэтаму каўчэгу — сто лакцёў,
А ўдаўжкі — болей тысячы.
Ды ўзяў туды Ной і птах і звяроў,
Каб не звёўся іх род з зямлі.
Ды не плыў к яму з мора сіняга
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Яго звычаі — арлініыя,
Яго ўцехі — сакаліныя;
Пер'і-пер'ечкі бялеюцца
Ды на золаку агнявеюцца.
У яго ў крыле — трыста тры пяры:
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — што мяцель гудзіць.

Як учнуць дажджы,— пацякла вада,
Разлілася горш ад павадкі.
Затапіла ўсе лугі-лугі,
Ўсе лугі-лугі, ўсе лясы-бары;
Уздымаецца вышэй ад гор.

Satraukti, kliedzieniem žēliem,
Kur piemesties, skatās.
Visu zemi klāj viļņi,
Bangojas viļņi putām baltām,
Un pa tiem drosmīgi peld
Savrupais Gulbis, lepnais un stiprais.
Pavēzē spārnu — šķiet iešalcas mežs,
Pavēzē vēlreiz — šķiet, putenis svelpj.
Te virsū uz Gulbja
Sametas putneļi bariem.
Gurst Savrupis Gulbis, sitas vai nost,
Putneļi tikai mierina to.
Peld dienu, divas, trīs,
Kad ceturtā, lūgšus lūdz:
«Kaut paceltos gaisā uz laiciņu jūs,
Pēdējie spēki man zūd.
Ļaujiet krūtīm, hei, ieelpot brīvi,
Ļaujiet plašāk, hei, atvēzēt spārnus!»
Nepaklausīja putneļi Gulbi.
Gar acīm viss satumsa,
Pagura varenie spārni,
Nolaidās ūdenī galva,
Un nogrima jūrā zilajā
Savrupis Gulbis, lepnais un stiprais.

Tagad visiem pēcteči ir,
Tikai nav vienu — Savrupo.

*1916*

Птахі ў небе стаяй лётаюць,
Енчаць жаласна, ад нуды крычаць,
Выглядаюць стуль прытулачку.
А па ўсёй зямлі толькі хвалі б'юць,
Толькі хвалі б'юць белай пенаю.
Ды па іх дужы, смелы плавае
Страцім-лебедзь — горды, моцны птах.
Узмахне крылом — быццам бор шуміць,
Узмахне другім — як мяцель гудзіць.
І населі тут на лебедзя
Птахі дробныя ўсёй стаяю.
Лебедзь з сілы выбіваецца,
Птушкі ажна усцяшаюцца.
Дзень ён плавае, другі-трэці дзень,
На чацвёрты стаў прасіць-маліць:
«Вы ўзляціце хоць на час які,
Выбіваюся з астатніх сіл.
Дайце вы грудзям, гэй, вальней ўздыхнуць!
Дайце вы крылам, гэй, шырэй узмахнуць!»
Не паслухалі птахі лебедзя.
Пацямнела у яго ў вачах,
Крыллі ўрэшце падламаліся,
Галава ў ваду апусцілася.
І пайшоў на дно мора сіняга
Страцім-лебедзь — моцны, горды птах.

Ад усіх цяпер патомкі ёсць,
Ды няма адных — Страцімавых.

*1916*

# Bangotnē

Vēl vakar plosījās vētra, kauca vējš sāļains, un kaijas nesās pār jūru kā sniegbalti kami, tumšzaļas bangas slējās kā siena, putu krēpes purinot baltas; slējās un vēlās pa jūru, viena pēc otras tās brāza pret kraujo un mežaino krastu, un drebēja melnbrūnās klintis no bangu smagajiem zvēlieniem, ar savām krūtīm šļakatās sašķaidot gāzmas. Vaidēja gaiss, un bangas ar dārdiem un rēkoņu mira tik lepni, moži un brīvi, par bojā eju atmetot domas!
Arī es biju lepns un možs. Un brīve ar bangbangām, viļņviļņiem ietriecās krūtīs, šais sakritušajās, mani celdamas kalnup augstaugstu, nost skalojot visu to brūmo, snaudošo, glumo, kas dvēslē bij tvēries, dziļi gūlies un snaudis, — tas viss nu modās ar reizi un tapa liedēts un stiprs. Un jūtu, tāds spēcīgs un brīvs, — arī es esmu cilvēks!
Aizbrāza plosīgā vētra, bet jūrai joprojām miera vēl nava. Palaikam vēl tālēs, bezgalīgajās, svina pelēkajās, paceļas viļņi, bez cerībām kādām, bez gribas, nomākti dodas pret krastu, lai pret klintīm bezspēkā atsistos, noplaktu skumji.
Jūtu jums līdzi, pelēkās bangas, ar sirdssāpi, ar tukšumu dvēselē jūtu jums līdzi: jūs tak — māsas dārgās manas!

*1910*

# Над морам

Учора йшчэ буры раскаты грымелі, выў вецер салёны, насіліся чайкі над морам, як белыя снежныя ком'я, і цёмна-зялёныя хвалі у вышу ўзмывалі сцяною, рассыпаўшы белыя кудры; ўзмывалі, каціліся ў моры, адна за аднэй набягалі на дзікі, абрывісты бераг,— і бурыя скалы трасліся пад вагай іх цяжкіх udaraў, сваімі грудзямі на брызгі вады разбіваючы глыбы. Паветра стагнала, і хвалі пад грохат і гул пагібалі так горда, вясёла і вольна, пакінуўшы думкі аб смерці!

І я быў вясёлы і горды. І мне пачуцця волі хваля, налюнуўшы, ўпалыя грудзі высока ў гару падымала, змываючы з сэрца ўсю ціну. І ўсё, што ў ім спала глыбока, тады прабудзілася разам, зрабілася цэльным, магутным. І чуў я, свабодны і моцны, так, чуў, што і я чалавек!

Мінулася грозная бура, а мора дасюль яшчэ б'ецца. Ў бязмежным свінцовым абшары ўздымаюцца дзе-нідзе хвалі, ідуць без надзеі, без волі, панура да берагу люнуць, аб скалы ударыць бяссільна і згінуць з глухою нудою.

Шкада мне вас, шэрыя хвалі, шкада ўсёй душой надарванай, ўсім сэрцам, ужо апусцелым: вы ж — родныя сёстры мае!

*1910*

# Sonets

*(Veltīju A. Pogodinam)*

Un sonnet sans défaut
vaut seul un long poéme.
*Boileau*[1]

Starp tuksnesi plūst ūdens, Dieva dots,
Pie Nīlas kapene — kā akmens cieta —
Cik gadu tūkstošus jau stāv šai vietā:
Tur graudu sauju glabā māla pods.
Kaut sausums pāri staigājis kā sods,
Bet tāda dzīvība ir graudā lieta,
Ka stiebri vārpas paceļ saules rietā:
Mirdz kviešu lauks — šīs zemes spēks un gods.
Tavs simbols, dzimtene, man pretī veras,

Jo tava spītība šai skatā tveras.
Un gara spēks, kas mūžam nesadils,
Bet augs kā strauts vai avots zemes dzīlēs
Un pāršķels tumsu, gaismu kaisli mīlēs —
No saules dvēsele un vārpas sils.

*1911*

---

[1] Viens lielisks sonets veselas poēmas vērts.
*Bualo (franču val.)*

# Санет

*Ахвярую А. Пагодзіну*

Un sonnet sans defaut
vaut seul un long poème.
*Boileau*[1]

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

*1911*

[1] Беззаганны санет варты адзін цэлай паэмы.
*Буало (франц.)*

# Sonets

Jau strautam pāri ledus kārta klājas
Un skumjo dienu gadalaiks ir klāt.
Pat vējam negribas vairs grabināt,
Tik klusi sniega pārslas plivinājas.
Bet viss — vienalga: dziļi dzīlēs krājas
No jauna ūdeņi, kas salu lād
Un tūdaļ steigsies ledu drupināt . . .
Lai gaida sirds un paliem talkā stājas!

Mēs abi gribētu tiem rada būt —
Kaut nogurušiem, tomēr spēku gūt
Un izprast dabas valodu līdz smeldzei!
Kā panākt to? Ikviens sev dzejnieks pats —
Lai meklē dzelmes savai gara veldzei
Un tumsā gaismu nes! Lai ceļš tad plats!

*1912*

# Санет

Замёрзла ноччу шпаркая крыніца;
Твая пара, зімовая нуда!
Цяпер няма ўжо руху ні сляда,
І нават зверху слоем снег лажыцца.
Ды ўсё дармо, бо там, пад ім, струіцца
Магутная, жывучая вада.
Чакай! Яе йшчэ прыйдзе чарада!
Здалее хваляў хор на вольны свет прабіцца.

Прыклаў я гэты сімвал да сябе,
Схіліўшыся ў надсільнай барацьбе,
І разгадаў прыроды роднай словы.
Як — прамаўчу, бо кожны з вас — паэт.
Рассейце ж самі лёгкі змрок прамовы,
Сваей душы туды праллце свет!

*1912*

# Triolets

Tu skaistulis jauns, Triolets.
*K. Fofanovs*

Kā putnēns niedrēs līganās
Ar bultas sparu doma plīvo
Un tūdaļ zaudē trīsu dzīvo.
Kā putnēns niedrēs līganās
Sirds tomēr jūt tās dvašu brīvo,
Drīz vārdus savai dziesmai krās:
«Kā putnēns niedrēs līganās
Ar bultas sparu doma plīvo.»

*1909—1912*

# Трыялет

Красавец юный, Триолет.
*К. Фофанов*

Як птушка ў гібкіх трасніках,
Стралою думка мільганула
І ўраз жа знікла, патанула,
Як птушка ў гібкіх трасніках.
Ды ўсё ж душа яе пачула
І ўжо пяе ў такіх славах:
«Як птушка ў гібкіх трасніках,
Стралою думка мільганула».

*1909—1912*

# Rondo

Spīd debess atspulgs . . . Acīs spīd
Jau pusnakts zvaigžņu blāzma klusi.
Pār ezeru un dīķi slīd,
Pār upi, kura aizmigusi.
Kā himna varžu varza krīt,
Teic slavu purvam apreibusi,
Kas spējis tumsu projām dzīt,
Kur zvaigžņu blāzma nokritusi
Spīd . . .

Bet varžu saime sapīkusi
Uz sauli, kad pār kalniem rīts
Jau gaismu nes uz purva pusi . . .
Kur varžu dusmas naktī mīt,
Kad debess zvaigžņu atspulgs klusi
Spīd?

*1911*

# Рандо

Узор прыгожы пекных зор
Гарыць ў цемні небасхіла;
Вада балот, стаўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваей адбіла.
І гімн спявае жабаў хор
Красе, каторую з'явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарашчы міла
Узор.

І сонца дальш клянуць, што скрыла
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы
Ды жаб не ўчуць вышэй ад гор
Там, дзе чыясь рука зрабіла
Узор.

*1911*

# Tercīnes

Mums patīk vecas, pusaizmirstas lietas,
Sengadu putekļus no pleciem nokratīt
Un izklejot pat nestaigātas vietas!

Mums patīk gadi, kas aiz kalniem krīt,
Kaut sapņos viņiem pieskarties ar roku!
Un vecos dzejniekus tad gribas palasīt.

Es atkal sonetus un rondo loku,
Lai drūmais pants gūst jaunu spozmi man:
Kā mēness atgaisma tver staru loku,—

Tā senās atbalsīs lai dzeja skan!

*1090—1912*

## Тэрцыны

Ёсць чары ў забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць
І жыць мінулым — гэткім мудрым, слаўным,—

Мы любім час далёкі ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

Таму вярнуўся я к рандо, санетам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым светам,—

Так вершы ззяюць даўняю красой!-

*1909—1912*

# Credo

Es gandarīts, jo tagad zinu īsti:
Patieso var dzīvē jaust,
Ja tik tiešām rūgto iepazīsi
Un līdz mielēm iztukšots būs kauss.

*1915—1916*

## Credo

Ёсць адна толькі мудрасць жыцця, і яе я шаную;
Вось што кажа яна:
Калі хочаш праўдзіва ты жыць, дык пей чару любую,
Але толькі да дна.

*1915—1916*

## Tā gadījās Kungam, tam Dievam . . .

Tā gadījās Kungam, tam Dievam,
Ka pārtrūka lūgšanu krelles,
Un izbira tās kā no sieta
Par zvaiznēm pie debesu velves.

No laika tā drūvīgi, sēri
Pār mūszemi nepārstāj vizēt.
Ko sadzird, no augšas ko vēro,
Ko nebeidz tā savādi trīcēt?

*1910*

# Упалі з грудзей пана Бога...

Упалі з грудзей пана Бога,
Парваўшыся, пацеркі зор.
Яны раскаціліся ў небе,
Усыпалі сіні прастор

І гэтак маркотна і пільна
На край наш нядольны глядзяць...
Што ж чуюць яны там, што бачаць?
Чаго ўсё дрыжаць і дрыжаць?..

*1910*

* * *

Nekūko, jel neskumdini mani,
Skaņā sila dzeguzīt;
Labāk jau man nezināt, cik ilgi
Dzīvot atlicis vēl rīt.
Tāds tas liktenis un nolemtība,
Tādēļ dvēsele man sirgst,
Domas skumjas, domas drūmas urda,—
Priekšlaikus man jānomirst.
To, ka nebūs gara mana dzīve,
Nojautusi sirds tāpat.
Tāpēc atlaidies pie mana kapa.
Iekūkojies skaņi tad.

*1909—1912*



Не кувай ты, шэрая зязюля,
Сумным гукам у бары;
Мо і скажаш, што я жыці буду,
Але лепш не гавары.
Бо не тое сведчыць маё сэрца,
Грудзі хворыя мае;
Боль у іх мне душу агартае,
Думцы голас падае.
Кажа, што нядоўга пажыву я,
Што загіну без пары...
Прыляці ж тады ты на магілу,
Закувай, як у бары.

*1909—1912*

# Jans un māte

Raudot dienām naktīm, vārga sagurusi esi.
Vēl ar cerību pie svētbildes liec smagu sveci,—
Viss var būt, dos spēkus lūgsna, aties nāves
baisma . . .
Puisim vaigi kā no vaska, dzeltē sveces gaismā.
Kusdams vasks lēni asaro pa sveci lejup,
Jana acis kaist, rit klusām asaras pa seju.
Svece blāvo, svece kūst un izdziest nemanāmi,
Nabadzīga, žēla būda tā, kur puisim jāmirst.
Svece deg un izplēn, ai, ne mūžīgi tai spīgāt,
Deg un izplēn tā, kā viss uz zemes pārmainīgās . . .

*1911*

# Ян і маці

Ты стамілася, змарнела, слёз праліла рэчку.
Што ж, пастаў прад абразамі, запаліўшы, свечку:
Мо паможа Яну гэты свет і пацер словы...
Асвяціла свечка з воску хлопца твар васковы.
Тае воск, і ўніз ціхутка капелькі сцякаюць,
А ў вачох збалелых Яна слёзы праступаюць.
Свечка свеціць, свечка ззяе, свечка дагарае,
І ў панурай, цеснай хаце хлопец памірае.
Ой, не век жа свечцы тонкай зіхацець, гарэці,—
Дагарыць яна і знікне, як і ўсё на свеце.

*1911*

* * *

Skani, taure, rīta agrumā skani,
Dod ceļam ziņu.
Sanāca biedri izvadīt Jani,
Jo tagad viņu
Nekas necels augšam.
Sanāca biedri izvadīt Jani,
Bēdīgi gauži bedri rok klajā,
Klajā pie ceļa tie puisi glabā.
Ai, neraudi, sieva, mazuļi, neraudiet,
Par nabaga Janku labāk
Aizlūdziet Dievu.
Citu sievu viņš atradis klajā laukā,
Tagad salaulāts
Citā saulē,
Saprecināts
Ar lodi svina.

*1909—1915*

* * *

Ой, грымі, грымі, труба, ўранку-рана,
У паход каб збірацца.
Сабіраліся таварышы Яна —
А яму не падацца.
Сабіраліся таварышы Яна —
Ў полі яму капаюць.
У той яме пры дарозе
Хлопца пахаваюць.
Ой, не плач, не плач, жонка, з дзеткамі, малымі,
Не плач, не нудзіся,—
Ды за Янку-небарачка
Богу памаліся.
Ён знайшоў другую жонку,
Чужую старонку,—
Ў чыстым полі з ёй пабраўся,
Куляй заручаўся.

*1909—1915*



Viļņas bruģotās ielas grimst trokšņos un dārd,
Veļas gājēju bangas pa trotuāriem.
Gaisma iezibas logos, deg vitrīnās vārds —
Spīd to nežēlīgs atspulgs pār skatieniem bāriem.

Bet nu iegriezies šķērsielā — pārsteigums drūms:
Krīt no vecajiem namiem tur ēnas un plešas;
Akmens starpās aug sūnas un nīkuļo krūms.
Tikai tornī, kad pārskrējis pāri tam dūms,
Veras pulkstenis — pūce no laikmeta sveša.

Staigā klusumam pēdās tur gurdums. Un miegs
Uzliek roku drīz jumtiem un krustiem, un sētām:
Dzirdēs bezgala tālu, ja pēkšņi kāds kliegs
Un ja zvaniķim pusnaktī zvanīt būs prieks...
Bet pēc tam klusums iesoļos dievnamā svētā.

Lai man sendienu atbalsis dvēselē dzied!
Šeit pēc burmistra pavēles rit viss — tā kā klājas:
Izdziest gaisma, kad logiem slēģi aizveras ciet.
Sardze pazūd. Un vēl tikai miegs garām iet
Man un pelei, kas grabinās tornī bez stājas.

*1911—1912*



Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людскі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ўгары зіхацяць,
І гараць аганьком вочы змучаных твараў!

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасвецкіх будынкаў;
Між каменнямі — мох і сцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыферблат — пільны сведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сняць
Ў небе купалы, брамы, байніцы і шпіцы;
Грук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны; загасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І не спім мы адны —
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

*1911—1912*

# Viļņā

*Sonets*

Trīc zili stari augstu lukturos...
Un skatlogos... Un reklāmās, ko šūpo
Vējš tā kā zvaigznes upju atvaros!
Pat pusnakts neapturēs ļaudis šos,
Kas bruģi min un min... Un miglai drūpot,
Kliedz tirgoņi... Sauc restorāni žūpot...
Tik aukains troksnis ielās, laukumos!
Bet tālāk — lombardi un banku ēkas,
Un baznīca, kas brīdina no grēka.
Un ormaņi pie stacijas, kur pūš
Jau vilciens tālās ceļa jūtīs tvaiku...
Bet fabrikas tik dūmu grīstes grūž...
Griež pilsēta mums kārdinošo vaigu!

*1911—1912*

# У Вільні

*Санет*

Ліхтарняў свет у сіняй вышыне...
Вітрыны... мора вывесак... як плямы,
Анонсы і плакаты на сцяне.
Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суюшчыя рэкламы...
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы...
Грук, гоман, гул,— усё ракой імкне.
А дальш — за радам кас, ламбардаў, банкаў —
Агні вакзала... павадка фурманкаў...
Віры людзей... сіпяшчы паравоз...
Зялёны семафор... пакгауз... склады...
Заводаў коміны пад цьмой нябёс...
О, горада чароўныя прынады!

*1911—1912*

# Baltkrievija

Mana baltkrievu zeme,
Ugunīm kvēlo tavs vārds,
Aizskan ar mātes šūpuļa dziesmu,
Dusmās kā pērkons bargumā dārd,
Prātos un dvēselē liesmo.
Tev kā pameitai liktenis tāds —
Pūru sev pielocīt vienmēr nav vaļas.
Pusmāsas izvadot tautās, visu, kas krāts,
Tām savus dārgumus daļā.

*1909—1916*

# Беларусь

Беларусь, Беларусь!
Агнём імя тваё мне гарыць
І з песняю-ласкай маткі нясецца,
Страшным агнём у размове стаіць
І грымотаю ў гнеў раздаецца.
Як нявехня ў няроднай сям'і
Ты пасагу сабе не надбала,
Залатыя кляйноты твае
Ў пыху сёстрам сваім даравала.

*1909—1916*

## Emigrantu dziesma

Daudz šai pasaulē klaidoņu dzīvo,
Kas vairs netic ne Dievam, ne velnam.
Viņiem patīk vien karogu plīva
Pāri tvaikoņiem ostgalā melnā.

Viņiem nav ko šai pasaulē zaudēt —
Nav ne mīlas, ne ienaida kvēla,
Viņiem nav par ko līksmot vai raudāt,
Tikai to viņi dvēselē vēlas:

Pabūt mirklīti svešajās malās,
Redzēt to, kas nav pieredzēts mūžā,
Un tad mesties pie teiksmainām salām
Jūras bangotņu sāļajās žūžās.

Citas ilgas mums dvēselē sitas,
Mēs no mājām jau nebrauktu projām,
Ja tur netrūktu maizes bez mitas,
Ja tur nebūtu jāaiziet bojā.

Tāpēc ielu un bulvāru dārdā,
Katrā robežas pārbaudes vietā
Grimstam ciemu un Nemunas smārdā,
Sveicam Liepājas gunis pēc lieta.

*1914*

# Эмігранцкая песня

Ёсць на свеце такія бадзягі,
Што не вераць ні ў бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сцягі
Караблёў акіянскага порта.

І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на свеце не маюць.
Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць,—
Аднаго яны моцна жадаюць:

Пабываць у краях незнаёмых,
Ды зазнаць там і шчасця і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.

Але мы — не таго мы шукаем,
Не таго на чужыне нам трэба.
Не рассталіся б мы з нашым краем,
Каб было дзеля нас у ім хлеба.

І на вуліцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.

*1914*

# Zeme, vai Dievs tevi lādējis tiešām . . .

Zeme, vai Dievs tevi lādējis tiešām,
Nedienas uzkrāvis, baidus.
Miglas un purvi . . . Pār liesajām riežām
Griezīgs vējš savvaļā skraida.

Pelēkas mājas aiz pelēkām sētām,
Pelēki ļaudis zem debess,—
Smagi ap sirdi par cietēju bēdām.
Kāpēc tik sūri uz zemes?

Rokas nav bijušās melnākā darba,
Pievarot slīkšņas un siekstas,
Paciešot likteni, smeldzīgu, skarbu,
Diendienā muguras liektas.

Acis kur pamet, it visur tik trūkums,
Bezcerīgs izmisums, raudas.
Ilgi vēl jācieš un jānes šo jūgu?
Sirds sāp par nabaga tautu.

Skumīgs tas meldiņš par atraitnes dēlu
Janku, kurš mīlēja, cieta.
Parastais irbenājs, vientuļi, žēli
Sēro pār atdusas vietu.

Teiksmas par laimību kamolā tinas,
Nedzird tur sirds nekā jauna.
Elpot kā, dzīvot, kas pateiks, kas zina?
Apkārt tik sodība ļauna.

# Краю мой родны! Як выкляты Богам...

Краю мой родны! Як выкляты Богам —
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліся родныя вёскі.
Жалем сціскаюцца грудзі! —
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Ўсюды панурыя людзі...

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынеслі моцныя спіны;
Шмат іх прымусілі выцерпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду —
Сціснецца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

Песня пяе, як удовіна сына,
Янку, каханне згубіла;
Там, дзе панура схілілась каліна,
Беднага хлопца магіла.

Ў гутарках-казках аб шчасці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сціснула гора дыханне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Gluži kā jūra tā bangaina palo,
Zemi klāj tuvi un tāļi.
Dzirdiet, vai spēsim ar bēdu tikt galā,
Spēka vai pietiks mums, brāļi?!

*1909*

Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла...
Брацця! Ці зможам грамадскае гора?
Брацця! Ці хваце нам сілы?!

*1909*

# Pans un mužiks

Arī es nu zinu, pan, no jums, paldies,
Ka tā zeme ne uz vaļiem turoties.
Tiešām, sen man prātā ienācis bij tas,
Ka tā turas tik uz mūsu muguras.

# Saruna

«Beidziet jokot, blēņas tās!»
«Jā, tāda drāma ir, kā smejies,
Kurā pristavs izsakās,
Ik vārdu lirinādams dzejā».

*1912*

## Пан і мужык

Дзякуй, пане, бо пазнаў ад вас і я,—
Не на трох кітах трымаецца зямля.
Згода, згода, бо здаецца неяк мне,
Што стаіць яна на нашай жа спіне.

## Гутарка

«Ат, не дурыце галавы!»
«Ды праўду ж драма ёсць такая,
Ў каторай прыстаў станавы
Лірычным вершам прамаўляе».

*1912*

# No baltkrievu zemnieka dziesmām

1

Cik vēl ilgi zem nedienām liekties,
Pārtrūks dzīve kā sapuvis diegs.
Velti lieti šie sviedri, ko liegties,
Bij to zināt, ka dzīve tā žmiegs.

Cik nav verstu pa pasauli klejots,
Celts un būvēts, kas uzskaitīt var.
Lija sviedri, aiz arkla man ejot,
Nācies zemi vissmagāko art..

Dūkstis, smiltāji, likstas un mokas,
Paša liktenis, draudošs un ļauns,—
Viss nu galā. Ka melnas šīs rokas,
Par to nebūs zem zemes man kauns

Jāmirst. Sviedri un asaras sīvi
Mani mūždien kā grauzēji grauž.
Grūti paelpot, sūrums šo dzīvi
Tā kā viesulis smildziņu lauž.

Laime pavīd un aizslīd par ātru,
Par to paliek tik sapņojums liegs.
Tamdēļ velti viss, tamdēļ lai pārtrūkst
Mana dzīve kā sapuvis diegs.

2

Kad maizi pie bagāta izlūgties spiests,
Ar akmeņiem mani tie cienā.

# З песняў беларускага мужыка

## 1

Гнусь, працую, пакуль не парвецца
Мне жыццё, як сагніўшая ніць;
А каб ведаў, што столькі пральецца
Майго поту, не стаў бы і жыць.

Адтаптаў сотні вёрст пехатом я,
Будаваў я дарогі, масты;
Ліўся пот мой, як рэзаў на ком'я
Плугам глебы сухія пласты.

Працаваў над пяском, над дрыгвою
І не мала там выцерпеў мук.
І не прыйдзецца мне пад зямлёю
Гэтых чорных саромецца рук.

А канаць ужо час: пот і слёзы
Мне жыццё, нібы мышы, грызуць;
Гора гне, як мяцеліца лозы,
Цэлы век не дае мне дыхнуць.

Шчасце ж гляне і ўдаль пранясецца,
І магу я аб ім толькі сніць...
Дык няхай жа, няхай сабе рвецца
Мне жыццё, як сагніўшая ніць.

## 2

Я хлеба ў багатых прасіў і маліў,—
Яны ж мне каменні давалі;

Šie akmeņi tagad aug augumā, briest
Starp viņiem un mani kā siena.

Tā ceļas, arvienu vēl augstāka būs
Un celdamās izbiedē daudzus.
Kas notiks, ja kādreiz tā sadrebēs, grūs?
Zem sevis ko apraks, ko saudzēs?

*1909*

І тыя каменні між імі і мной
Сцяною вялізнаю ўсталі.

Яна усе вышай і вышай расце
І шмат каго дужа лякае.
Што ж будзе, як дрогне, як рухне яна?
Каго пад сабой пахавае?

*1909*

# Sluckas audējas

*No krājuma «Vainags»*

Māc svešums vakarā un rītā,
Ik brīdi sūras raizes grauž:
No dzimtiem ciemiem projām dzītas,
Tās muižā zelta jostas auž
Tik garas, ka var mūžu apņemt,
Pēc persu rakstiem dzijas vij,
Nav laika vaļu palaist sapņiem
Līdz mīlestības debesij.
Bet sakrustotās logu rūtis
Liek tomēr domām steigties tur,
Kur pavasaris ceļa jūtīs
No zemes zaļus asnus bur;
Kur traucas upīte kā skuķe
Un sudrabotu sagšu nes,
Zied lauka malā rudzupuķe,
Šalc vējā bērzu galotnes;
Tas prātā nāk, kad piever plakstus,
Gaišs siltums viegli sirdi glauž,
Un, aizmirsusi persu rakstus,
Jau roka rudzupuķi auž.

*1909*

# Слуцкія ткачыхі

*<Рэдакцыя зборніка «Вянок»>*

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

*1909*

# Ežas

It visa zeme sažogota šķiet:
Kur acis met, visapkārt vienuviet
Stāv sanagloti žogi, miets pie mieta,
Vēl stikla lauskas starpās sastūķētas.
Kur vien tik skatiens krīt aiz sētas,
Lai kur tu ietu,
Viss plašums sadalīts —
Caur mežu grāvji, stigas stīdz,
Gulst simtpudīgi akmeņi uz lauka,
Iet šņores līdz pat pamalei,
Un iesmi, zemē dzītie, vei,
Ar mežonīgu iekāri vēl raugās,
Valsts robežas kur plešas.
It visur apkārt — ežas, ežas.

Šī zeme svēta, plaša ir bezgala,
Bet cilvēks smok,
Ceļ žogus, ežas, grāvjus rok
Un patveras kā lapsa alā.
Tāds tramīgs viens,
Kā apses lapa drebelīgs mūždien,
Tāds skaudīgs,
Bez dvēsles, īdzīgs, citiem svešs un draudīgs
Mīt šķirts no visa, lai vai kas,
Aiz žoga tā, aiz ežmalas.

Ja paskatās, kas darās aiz tā žoga!
Tur nomākts cilvēks melnā darbā līkst,
Tas skrandains, izsalcis un nelaimīgs.
Tik viņa darbs, tik viņa stiprās rokas

## Мяжы

Кінь вокам на увесь абшар зямлі:
Вось хату шчыльна абышлі
Парканы з гострымі цвікамі,
Пасыпаныя бітым шклом,
Глядзі — ў прасторах за сялом
Мяжамі
Падзелены на нівах каласы,
Ідуць канаўкі праз лясы,
І стопудовыя гранічныя каменні
Сярод лугоў бяскрайных заляглі.
Шнуры штыкоў па ўсей зямлі
Гараць, як дзікае хаценне,
На гасударстваў рубяжы.
Глядзі: паўсюль мяжы.

Нязмерны вольныя прасторы
Святой зямлі,— а чалавек
Мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век,
Хаваўся ў іх, як ліс у норы,
І жыў пужліва сам — адзін,
Дрыжачы, як лісцё асін,
Злаclівы, бессардэчны, хцівы,
Такі здрадлівы,
Для ўсіх чужы, зусім чужы.
Вакол яго — платы, мяжы.

Пабач, што робіцца за гэтымі платамі!
Ў надмернай працы гіне тут
Галодны і абдзёрты люд,
Каторы моцнымі рукамі

Šai zemei bagātību gādā, krāj:
Ar čugunsliedēm tālus ceļus klāj
Un dūmeņus līdz padebešiem saceļ,
Ar tīrumus, pie vagas vagu dzen.
Tā sviedros, asarās, bez elpas sen
Diendienā jūgu velk, līdz satumst acis.

Pa visu zemi svēto, rau,
Met plašu vilni zeltains lauks,
Bez gala un bez maļas druvas tā kā jūra,
Šalc meži, pļavas zied.
Kur krāšņums, dāsnums tāds vēl cituviet! . . .
Bet trūkums ļaudis spiež un bēda sūra,
Jo kur tik acis met, visapkārt plešas
Šīs sētas un šīs ežas, ežas.

*1914*

Стварыў усе багацтвы на зямлі:
Правёў ён скібы на раллі,
Ён рэйкі пралажыў чыгунак,
Заводаў коміны падняў у выш нябёс,
А сам даўно сляпы ад слёз
І ўжо забыўся аб ратунак.

Глядзі: па ўсёй зямлі святой
Шырокай хваляй залатой
Без краю блішча збожжа мора,
Цвітуць лугі, шумяць лясы...
Так многа ёсць паўсюль багацтва і красы,
А людзі нішчацца у голадзе, у зморы
Ад беднаты, ад цемнаты,
Бо скрозь — мяжы, бо скрозь — платы.

*1914*

## Skirpusja

Ai, brauca Skirpusja, brauca uz tirgu,
Palūkoties, lai sev ko pirktu.
        Kas īsti — vārna vai pūce tā bija
        Vai pati atraitne Skirpusja bija,
Kas zirgu pret pīļu tēviņu mija,
Pīļu tēviņu cekulainu,
Pieprasīgu un jaunu.
        Ko ļaunu — ko pirka nopirka.
        Tikai, ač, vaina —
        Pati aiz sirdēstiem sasirga.
Peldinās pīļtēviņš, cekulu paglauž,
Acis pašauj, dzeldina,
Kur pīlīte daža.
        Ai, Ivašečka mīlītis
        Ar Natašečku mutēties
        Būtu jel mitējies!

*1915—1916*

## Скірпуся

Ой, пайшла сабе Скірпуся на кірмаш,
Паглядзець, ці селязенькаў нямаш,—
Мо варона, мо сава,
Мо Скірпусенька ўдава.
Прадала яна каня,
Ўтаргавала селязня,
Селязенька чубаценькага,
Маладога, зухаваценькага.
Пакупіўшы селязня,
Мела клопату штодня;
Селязенька умываецца,
Сам на вулку узіраецца;
Узіраецца на вулачку,
Ці не ўбачыць тую вутачку.
Селязенька — Івашачка,
Ён цалуецца з Наташачкай.

*1915—1916*

# Grāmata

Man rokās psalmi. Vāki brūnu ādu klāti
Un slēdži sudraboti. Bijīgs vaļā ver,
Pa rindai kirilicu lasi. Apskurbst prāti,
Kad aizgūtnēm kā vīraku šīs smaržas tver.

Teikts psalmos: «Kā tas briedis meklēdamies klejo
Pēc dzidrā avota, tā dievu gribu rast.»
Kāds svaigums, zemes smārds no senām lapām vējo!
Nes mani prieks, tāds pacilāts un neparasts!

Vēl saskatāms kāds vienkāršs piezīmējums malā:
«Par patikšanu Đievam paveicis to naigs
Šai Vilkumiestā Gapons, djaks. No laika gala
Tas gads — septiņtūkstoš simtu astotais».

*1912*

# Кніга

Псалтыр, пакрытую няжорсткай, бурай кожай,
Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў,
Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай
І воску з ладанам прыемны пах пачуў.

Вось псальма слічная. «Як той алень шукае
Крыніцы чыстай, так шукаю Бога я».
Як вее свежасцю яе краса жывая!
Як радасна далей спяшыць душа мая!

І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,
Што «кнігу гэтую раб Божы, дзяк Гапон,
Дзеля душы спісаў у месце Ваўкавыску
У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён».

*1912*

# Bezcerība

No torņa zīķē nakti, zvaigžņu ceļus tver
Pats Skarina, kurš viedās mākas zina.
Klāt zvaigžņu stunda! Zemstes skrīveris slims dzer
No maga rokām virumu, kas izdziedinās.
Te pamana, ka dārgakmenim spīdums zūd
Tai zelta gredzenā uz pirksta panam . . .
Un saprot viņš, ka vairs nav lemts šai dzīvē būt,
Ka velti viss, ka tā ir viņa aiziešana.

*1912*

# Безнадзейнасць

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны п'е адвар пан земскі пісар хворы,
І ўраз пабачыў ён, што ізумруд
Ў пярсцёнку залатым на пальцы штось імгліцца,
Што блеску ў ім няма... І з болем тут
Ён зразумеў, што ўжо к жыццю не вараціцца.

*1912*

* * *

Deg svece, deg, lai migla gaistu,
Kā puķe kvēlodama zied.
Tās liesmā plīvo alkains skaistums,
Ka gribas viņam pretī iet.

Bet taurenītis, trīcot sāpēs,
Šurp atlido — no tumsas rauts —
Un paša neapjaustās slāpēs
Tiek nežēlīgā svelmē kauts.

Deg svece, deg. Kam gunī dzīties!
Kā rasa karstas piles slīd
Uz leju, kur nakts taurenītis
Par upuri tev, skaistums, krīt.

*1909—1912*

* * *

Свяча бліскучая зіяе,
Каб расступілася імгла;
Ў яе агні — краса жывая,
Яна прыгожа і святла.

Ўблізі матыль дрыжыць ад болю,
Прываблены з імглы агнём.
Ён рынуўся туды без волі
І смерць сваю спаткаў у ём.

Свяча гарыць. З яе ліецца
За кропляй кропля, як раса,
А матылёк ужо не б'ецца:
Табе ахвяра ён, краса!

*1909—1912*

* * *

Laukā vēji un migla . . . Un līst . . .
Tikai sādžās vēl ugunis gail,
Kur pa tumsu drūms liktenis klīst,
Un no likteņa ēnas man bail.

Ko tur velti no likteņa bīties:
Naktī acīs tam neieskatīties.

Tikai klajumā vēji šeit kauc,
Rudens drēgnajā slapjumā skumst,
Kaut ko dzimtajai zemītei sauc,
Kas aiz lietainām pamalēm gumst.

— Gaudo skaļāk tu, negais, vai dzirdi:
Man šī dziesmiņa sažņaudza sirdi!

Lai arvienu tev drošāka balss —
Mūs no miega un nespēka rauj!
Lai uz cīņu — lietus vai sals —
Aujas tie, kurus nediena skauj!

Neveiks taisnību tumsa sīva,
Ja reiz modīsies dziesma dzīva.

*1909*

* * *

Дождж у полі і холад... Імгла...
Дзесь ў вёсцы міргаюць агні.
Там, злякаўшысь, схавалась, лягла
Доля горкая ў чорным цяні.

І пад цёмнымі скрыдламі ночы
Не убачыць цяпер яе вочы.

Толькі вецер асенні, начны
Ў полі сумна гудзіць і пяе
Аб радзімай старонцы глухой
Ды аб долі няшчаснай яе.

Цісне сэрца мне песня начная...
Хай жа голасна вецер спявае,

Хай пяе ён у роднай зямлі,
Каб у сэрцах нам сорам збудзіць,
Каб змагацца з няпраўдай ішлі,
Ў чым сэрцы сумленне не спіць.

Долю чорную ноч не схавае,
Калі вырвецца песня жывая!

*1909*

* * *

Pār klusām ielām pusnakts klusē,
Mēms ļaužu bars kā aizmirsts kaps.
Kurš sadzirdēs vēl šajā pusē,
Kā vaid mums telegrāfa stabs?

Un pilsēta, pēc laukiem skumstot,
Šo sāpju balsi dziesmā liek,
Lai, bulvāriem un ielām tumstot,
Kaut kas no pļavu dvašas tiek

No kapu mētrām, mežu elpas,
No puteņiem, kad griežas sniegs,
No tīrumiem un vēju svelpas,
Kur kopā asaras un prieks.

Es cieši piespiežos pie staba
Un lūdzu, lai tas ilgi dūc,
Lai sirds kā dziesmu vaidu glabā
Un mīļi sasilda pie krūts!

*1911—1912*

* * *

На глухіх вулках — ноч глухая,
Не менш глухі людскі натоўп.
Дык хто ж пачуе, як спявае,
Як стогне тэлеграфны стоўп?

І места, дзе няма прастора
Дзеля прыроды буйных сіл,
Прабіла сцежку мору гора
Палёў, лясоў, капцоў, магіл.

Палёў, дзе круціць завіруха,
Ўзрываючы халодны снег,
Палёў, дзе ўсё бушуе глуха,
Дзе чутны разам стогн і смех!

І вось той гул мне ў душу ўліўся.
Гудзі, гудзі, дрыжачы дрот!
Ўвесь бледны, млосны прыхіліўся
Я ля ліхтарні да варот.

*1911—1912*

* * *

Tauta, mana baltkrievu tauta,
Nicināta, tumsības skauta,
Iedzīta kaktā,
Gluži kā kurmis akla.
Pat dvēsele apzagta tava,—
Kad valodas savas nava,
Kad nāves biesmās pat iekliegties:
«Glābiet!» nav brīv, bet jākliedz: «Paldies!»
Vien tas to spēj sadzirdēt, dzirdēt,
Vien tas,
Kurš klausīties pratīs ar sirdi!

*1913*

* * *

Народ, Беларускі Народ!
Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма
І душу тваю абакралі,—
У ёй нават мовы няма.
Збудзіўшысь ад грознай бяды,
Ўвесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны: «Ратуйце!»
І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!-

*1913*

* * *

Tumšas tā kā ogle melna, paklusas man dziesmas
visas,
Tomēr iekvēloties spēs un manu moku liesmās
margos,
Kad es iedzirkstīšu tās.
Bet ja apdzisīs, tad spīdēs vēl, kā dimatgraudi
vizēs,
Sastingdamas pārvērtīsies dārgakmeņos, spožos,
dārgos,—
Tad, kad mani zeme klās.

*1910*

* * *

Ціхія мае ўсе песні, цёмныя, як вугаль чорны,
Але ўсё ж яны засвецяць, калі я ў агні мучэння
Іх разжару, распалю;
А як згасне ён,— дык бліснуць,
быццам дыяментаў зёрны,
Бо абернуцца, застыўшы, ў драгацэнныя каменні
Ў час, як я лягу ў зямлю.

*1910*

* * *

Šai baltā mājā, kur man jānomirst,
Pie līča zilā,— nav aiziešana grūta.
Es neesmu vientuļš,— grāmata man ir,
Ko nodrukājis pans Mārtiņš Kuhta.*

*1917*

---

* Mārtiņš Kuhta — grāmatizdevējs, Viļņā 1913. gadā bija iespiedis Maksima Bahdanoviča dzejoļu krājumu «Vainags». Šīs ir dzejnieka pēdējās uzrakstītās rindas pirms nāves, Jaltā 1917. gadā.

* * *

У краіне светлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

*1917*

# Saturs



# Змест

**Багдановіч М.**

Б 14 Цвяток радзімы васілька...: Вершы / Пер. з бел.— Мн.: Маст. літ., 1992.— 159 с.— (Запавет. радкі).

ISBN 5-340-01265-4.

Класік навейшай беларускай літаратуры Максім Багдановіч (1891—1917) пададзены ў кнізе «Цвяток радзімы васілька...» сваімі лепшымі творамі.

4702120102—083
Б ———————— БЗ 57—92
M302(03)—92

ББК 84Бел1

Літаратурна-мастацкае выданне

**Багдановіч Максім Адамавіч**

**Цвяток радзімы васілька...**

Вершы

*На беларускай і латышскай мовах*

Рэдактары *Г. А. Шаранговіч, Ж. Эзітэ.* Мастак *Л. Я. Прагін.* Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *Я. Ф. Харк*

ІБ № 4028

Здадзена ў набор 02.09.91. Падп. да друку 03.01.92. Фармат 70×90$^{1}/_{3}$ Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. ар 5,85. Ум. фарб.-адб. 6,14. Ул.-выд. арк. 3,66. Выд. № У—469. Тыра 6000 экз. Зак. 1662. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА ім Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

1 р. 50 к.

*Максім Богдановіч*

*У кніжку «Цвяток радзімы васілька...» ўвайшлі ўзоры лірыкі класіка навейшай беларускай літаратуры Максіма Багдановіча (1891—1917) у арыгінале і ў перакладзе на латышскую мову Андрыса Веяна і Віктара Ліўземніека.*

